www.nv-online.info

№89 (3932)

14 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЧУЛІ?

# У Мінску з'явяцца мікрараёны «Новая Баравая» і «Ноцінгем»

*А ўвогуле, да 2017 года аб'ёмы будаўніцтва жылля ў сталіцы скароцяцца да 600 тысяч кв. метраў у год.*

**Праект "Новая Баравая"** — адзін з буйнейшых у Мінску. Кампанія "А-100 Дэвелопмент" ужо распачала будаўніцтва мікрараёна, дзе з'явяцца 20 тысяч кватэр як мінімум для 60 тысяч чалавек.

Анансуецца "Новая Баравая" як *"экалагічна чысты раён Мінска, побач з праспектам Незалежнасці і мікрараёнам "Уручча" ў 600 метрах ад МКАД".*

Першая чарга будаўніцтва Новай Баравой — гэта 6 панэльных дамоў на 1840 кватэр, а тэрмін рэалізацыі праекта разлічаны на 10 гадоў: з 2014-га па 2024 год. Першы квартал у раёне павінны пабудаваць да 2016 года.

Яшчэ адзін буйны праект у сталіцы — будаўніцтва **мікрараёна "Ноцінгем".**

*"Побач з перспектыўным Зялёным Борам у наступным годзе мяркуецца пачаць забудову жылога раёна "Ноцінгем",* — распавёў журналістам першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Мікалай Бутрым**. — *Усяго там можа быць пабудавана 1,2 мільёна кв. метраў. З іх 900 тысяч будзе ўзводзіць УКБ Мінгарвыканкама, 300 тысяч — кампанія "Ювараград". Гэта ў асноўным сярэднеэтажнае жыллё, у 4—6 узроўняў. Плануецца таксама ўзвядзенне двух кварталаў катэджаў і больш высокіх дамоў".*

На сайце кампаніі "Ювараград" сказана: *"Жылы комплекс "Ноцінгем", праца над якім пачалася ў сакавіку 2008 г., — буйны будаўнічы праект для Беларусі. Тэрыторыя комплексу знаходзіцца ў двух кіламетрах ад Мінскай кальцавой аўтадарогі і мяжуе: на поўначы — з праектуемай аўтадарогай у накірунку Нацыянальнага аэрапорта Мінск, на поўдні — з біялагічным заказнікам "Сціклева", на захадзе — з аўтадарогай і чыгункай Калодзішчы—Міханавічы, на усходзе — з участкам гольф-комплексу".*

Асваенне гэтага раёна запланавана да 2020 года.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАРЭЧЫ

Паводле слоў намесніка старшыні камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама **Паўла Лучыновіча**, у 2017 годзе аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва ў сталіцы скароцяцца да 600 тысяч кв. метраў у год, паведамляюць "Мінск-навіны".

Ён адзначыў, што жыллё будзе будавацца па заказе ўпраўленняў капітальнага будаўніцтва раёнаў і горада. Для камерцыйных забудоўшчыкаў участкі пад будаўніцтва ў гэтым годзе ўжо прапануюцца на аўкцыёнах.



Паводле слоў Лучыновіча, новыя раёны будуць расці ў Лошыцы-7 і 8, у раёне вул.Макаёнка, на месцы птушкафабрыкі імя Крупскай пасля яе поўнага высасу, на тэрыторыі аэрапорта Мінск-1.

Магчыма, новая забудова з'явіцца і ў раёне вуліцы Ціміразева, Грыбаедава, Татарскай. Яшчэ адным рэзервам застаюцца спецтэрыторыі Міністэрства абароны, на якіх знаходзяцца вайсковыя часці. Зараз распрацоўваюцца дэталёвыя планы такіх участкаў у горадзе.

## Сяргей Лаўроў наведае Беларусь

Кіраўнік МЗС Расіі прыляціць у Мінск у аўторак 18 лістапада. Ён прыме ўдзел у 11-м сумесным пасяджэнні калегіі міністэрстваў замежных спраў Беларусі і Расіі.

Як паведаміў на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Беларусі **Дзмітрый Міронча к,** на пасяджэнні плануецца абмеркаваць прасоўванне на міжнароднай арэне сумесных ініцыятыў Беларусі і Расіі, прысвечаных 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Акрамя таго, дыпламаты абмяркуюць узаемадзеянне ў рамках АБСЕ, развіццё адносін з Еўрасаюзам, кантроль над узбраеннямі ў свеце на сучасным этапе.

Кіраўнікі МЗС дзвюх краін плануюць падпісаць план кансультацый паміж міністэрствамі замежных спраў Беларусі і Расіі на 2015 год.

## А.Лукашэнка: памкненні на Гродзенскую вобласць у асобных дзяржаў занадта празмерныя

Даць інфармацыю аб сітуацыі ў Гродзенскай вобласці папрасіў **Аляксандр Лукашэнка** старшыню КДБ **Валерыя Вакульчыка**, прымаючы яго ўчора з дакладам.

"*Мяне яна не проста насцярожвае, а я памятаю, што было раней. Там жа быў адзіны выпадак у краіне, калі застрэлілі "губернатара". І зразумела, якія гэта былі праявы. Ды і ведаю, што памкненні на Гродзенскую вобласць у асобных дзяржаў занадта празмерныя",* — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД



Сергей НЕРОВНЫЙ

# В скорлупе

**Советский период запомнился тем, кто в нем жил, не только тотальным дефицитом товаров, но и информационным голодом. В государстве утопии и всеобщего благоденствия, которое придумали большевики, не могло происходить ничего плохого по определению. Поэтому идеологи с черными наганами подсовывали гражданам пропаганду вместо разносторонней информации и аналитики. Спустя годы они спрятали наганы в сейфы, вырядились в цивильные одежды, но суть их от этого не изменилась.**

**В советских СМИ мир делился на две части. В одном граждане были очень счастливы во главе с безгрешной коммунистической партией, работали, жили в достатке, рожали детей безо всякого секса, в свободное время ходили на демонстрации, где славили своих вождей. В этом мире не было катастроф, аварий, банд и убийц, коррупции, проституции и прочих язв, присущих другому строю. А вот иной мир погряз в разврате, наркомании, коррупции, нищете, войнах. Там падали самолеты, взрывались автобусы, метро, орудовали банды убийц и т.д. Обо всем этом советские граждане узнавали из самого справедливого в мире телевидения и таких же уникальных газет.**

**Конечно, была в советском обществе прослойка людей, которая почему-то не верила тому, что пишут в газетах и говорят на телевидении. Поэтому по ночам настраивала радиоприемники на вражеские голоса. Что было самым удивительным, эти голоса говорили правду. Мало того, Би-Би-Си, "Голос Америки", Радио Свобода транслировали музыку и песни, от которых нельзя было оторваться. Где еще, например, можно было услышать популярного Высоцкого?**

**Инерция идеологического оболванивания людей не прекратилась даже с началом Перестройки, когда новое руководство СССР провозгласило курс на гласность и демократию. Вспомните, сколько времени скрывались подробности катастрофы на Чернобыльской АЭС, участия советских войск в афганской авантюре?**

**СССР развалился не только из-за краха экономики, но и по причине несусветной лжи, пропитавшей всю страну. И это в конце концов стало очевидным для всех.**

**Потом был период, когда информация полезла изо всех щелей и стала доступной. Но кто учил людей отделять зерна от плевел? Сладкоголосые соловьи и новоявленные Цицероны завоевали сердца и души одуревшего от информационного изобилия электората. Новые популисты, как и большевики, воспользовались неразберихой, пришли к власти. И быстренько демократию свернули. Разве не так поступил Александр Лукашенко? Не зря он так привязан к большевистской революции 1917 года. Подходы-то одни.**

**На 21-м году власти А.Лукашенко Беларусь выступает в роли мини-СССР. Здесь есть комсомол, пионерия, идеологические отделы и цензура. Правит одна партия — партия Александра Григорьевича. У нее нет регистрации и имени, но она реально существует. И не имеет значения, под какой вывеской функционирует та или иная структура.**

**В нашем районе партия имеет филиал — Кричевский райисполком вкупе с райсоветом. Филиал имеет свой печатный орган — газету "Кричевская жизнь" (так ли давно она и называлась по-большевистски — "Ленинский клич"?). Предназначение этой газеты, по моему мнению, — создание иллюзии, что власть работает на людей. Эта газета существует для пиара партии Лукашенко, чиновников, которых он присылает в район для "наведения порядка".**

**В конце августа в Кричеве едва не случилась трагедия — рухнула часть здания гимназии. Причины обрушения устанавливала комиссия. Город был в шоке, потому что у каждого в школах и других учебных заведениях учатся и работают дети, внуки, правнуки, дети и внуки родственников, знакомых. Происшествие накануне учебного года коснулось всех. Граждане хотели знать подробную информацию о том, как работает комиссия, какие предварительные выводы, что специалисты говорят о других зданиях города, возможно ли восстановление здания гимназии, будут ли строить новое здание и где, как в дальнейшем будут учиться и работать гимназисты и учителя. Миллион вопросов подкидывал каждый день. Но — молчала "Кричевская жизнь". Отделалась кратенькой заметкой, что создан штаб по ликвидации последствий аварии. Ни тебе снимка обрушенного здания, ни фото растерянных гимназистов и учителей. Вместо этого — идеологическая шелуха о бесконечных совещаниях и "горячих линиях".**

**...Жизнь в скорлупе продолжается.**

*("Вольный город").*

*г.Кричев*

## На выхадных пахаладае

Паводле слоў сіноптыкаў, у суботу днём будзе ад -1 да +5, па паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці — да +7 градусаў. У нядзелю ўначы чакаецца ад -4 да +3 градусаў, дзённая тэмпература — ад -2 па паўночным усходзе да +5 градусаў па паўднёвым захадзе краіны.

ПРАТЭСТ

## У канфлікт рабочых з дырэктарам завода ўцягваюць міліцыю

Чацвёра рабочых, звольненых з Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў (БЗТДіА), сёння ў 16.00 павінны наведаць міліцыю. З якой нагоды? Магчыма, будуць складзены справаздачы... Магчыма, будуць складзены пратаколы аб адміністрацыйным парушэнні. Праўда, у міліцыі не патлумачылі, на падставе якога атрыкула будуць складаць тыя самыя пратаколы. Назіральнікі лічаць, што актывістаў, хутчэй за ўсё, абвінавацяць ва ўдзеле ў... несанкцыянаваным мерапрыемстве.

Тым часам грамадскія актывісты Бабруйска патрабуюць ад гарадскіх чыноўнікаў *"спыніць ціск на сябраў СПБ, уступіць у перамовы з удзельнікамі галадоўкі, выканаць іх законныя патрабаванні аб аднаўленні на працы, выйсці з прапановай да Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь аб неадкладным скасаванні кантракта з дырэктарам завода* ***Аляксандрам АГРАНОВІЧАМ****, які дыскрэдытуе пасаду кіраўніка прадпрыемства".*

Нагадаем, што звольненыя сябры незалежнага прафсаюза распачалі галадоўку пратэсту яшчэ 5 лістапада.

**Любоў ЛУНЁВА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Лешак ШАРЭПКА:

## «Суседзі не могуць жыць побач і паміж сабой не размаўляць...»

*На традыцыйнай сустрэчы з журналістамі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі* ***Лешак ШАРЭПКА*** *распавёў пра беларуска-польскія стасункі і адкрыццё візавых цэнтраў.*

Паводле слоў Шарэпкі, еўрапейскі выбар, які зрабіла ў свой час Польшча, дае вынікі.

*"За апошнія 20 гадоў ВУП нашай краіны павялічыўся ў 10 разоў, а экспарт — у 14 разоў,* — адзначыў ён. — *Нават крызіс абышоў нас бокам, таму відавочна, што рухаемся ў правільным накірунку".*

Што датычыцца беларуска-польскіх адносін, дык пасол адзначыў, што яны значна палепшыліся.

*"Суседзі не могуць жыць побач і паміж сабой не размаўляць,* — сказаў **Лешак Шарэпка**. — *Адразу пасля мінскай сустрэчы па пытанні ўрэгулявання ваеннага канфлікту ва Украіне ў Варшаву прыехаў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, і мы ўдзячны, што атрымалі інфармацыю з першых рук. Былі візіты польскіх дыпламатаў у адказ, так што працэс ідзе, і гэта не можа не радаваць".*

Як заўжды, не абмінуў пасол і актуальнае для беларусаў візавае пытанне. Чэргі ля польскага пасольства — гэта ўжо стала нормай жыцця ў нашай краіне.

**— Калі ў Беларусі адкрыюцца польскія візавыя цэнтры і колькі іх будзе?** — запытаў у пасла карэспандэнт "Народнай Волі".

— Вясной плануем адкрыць восем візавых цэнтраў — ва ўсіх абласных гарадах і яшчэ, здаецца, у Пінску і Лідзе. Там, безумоўна, будзе невялікая дадатковая плата, але гэта танней, чым плаціць пасрэднікам і нават ехаць, напрыклад, з Гомельскай вобласці ў Мінск, каб падаць дакументы на адкрыццё візы. Таму ўсё акупіцца. Дарэчы, з верасня гэтага года з'явілася магчымасць атрымання ў польскай амбасадзе турыстычнай візы адразу на 2 гады. Мы змянілі працэдуру аплаты консульскага збору за атрыманне шэнгенскай візы, і цяпер у нас ёсць партнёр — польскі банк. Так што цяпер ужо не трэба стаяць у чэргах. На падставе дамовы ўвялі магчымасць для атрымання бясплатных віз для школьнікаў. Адным словам, візавыя пытанні таксама вырашаюцца, і мы назіраем рост колькасці выданых віз. За 9 месяцаў гэтага года выдалі на 13 працэнтаў больш, чым за аналагічны перыяд 2013-га. У мінулым годзе мы выдалі 350 тысяч віз, а зараз — ужо 320 тысяч.

Паводле слоў Лешака Шарэпкі, ёсць прагрэс і ў гандлі паміж Польшчай і Беларуссю, і ў іншых пытаннях.

*"Мяне гэты год толькі радуе",* — шчыра прызнаўся пасол.

**Алесь СІВЫ.**

РУБАМ!

Алег ГАЙДУКЕВІЧ:

# «Будзем крычаць — толькі сапсуем усё. Таму мы і не крычым»

*Пратэст звольненых з працы бабруйскіх рабочых цягнецца ўжо тыдзень.*

*Хто далучыўся да акцыі адчаю?*

*Хто падтрымаў рабочых, якія змагаюцца за сваё права на працу?*

*Пакуль вядома, што галадоўку салідарнасці са звольненымі трымае супрацоўніца Бабруйскай раённай бібліятэкі Святлана Грыцэнка і старшыня Бабруйскай рэгіянальнай арганізацыі прафсаюза РЭП Галіна Смірнова. Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук, які прыязджаў у Бабруйск да галадаючых, прапанаваў ім дзеля здароўя галадоўку спыніць.*

*Як ставяцца да пратэсту ў Бабруйску іншыя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, партый? Мы вырашылі звярнуцца з пытаннем да першага намесніка старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі* ***Алега ГАЙДУКЕВІЧА:***

**— Адбіваючыся ад апанентаў, вы не раз казалі, што ваша партыя не з'яўляецца праўладнай. Тады скажыце, чаму вы, ліберал-дэмакраты, не выступаеце ў абарону тых людзей, якіх звальняюць з работы не за тое, што яны дрэнна працуюць, а за тое, што яны выйшлі з афіцыйных прафсаюзаў і ўступілі ў незалежныя, займаюць прынцыповую пазіцыю па абароне правоў працоўных? Менавіта з-за гэтага зараз за прахадной апынуліся дзевяць рабочых Бабруйскага завода трактарных дэталяў і агрэгатаў. Чаму маўчыць ваша партыя?**

— Калі рабочых звольнілі з працы за тое, што яны сябры незалежнага прафсаюза, гэта незаконна. Можа быць, бабруйскія ўлады, адміністрацыя прадпрыемства залішне перастрахаваліся, ніякай небяспекі незалежныя прафсаюзы краіне не нясуць. Хто хоча, хай будзе ў гэтым прафсаюзе, хто хоча — у іншым. Мы заўсёды казалі пра тое, што тут ніякай праблемы няма. І калі людзі сёння без працы і яшчэ галадаюць у знак пратэсту супраць свайго звальнення, гэта дрэнна, і наша партыя не можа іх не падтрымаць. Самае галоўнае цяпер, каб мясцовыя ўлады разабраліся ў гэтым пытанні. Думаю, што ў бліжэйшы час рашэнне будзе. Я ў гэта веру. Таму што не павінна быць так, быццам гэтыя працоўныя — злачынцы. Мясцовыя ўлады паправяць ў Мінску.

**— Вы аптыміст. Думаеце, у высокіх кабінетах ў Мінску не ведаюць пра галадоўку ў Бабруйску? Успомніце, акцыі пратэсту на заводзе "Граніт" у мінулым годзе. Усіх пратэстуючых звольнілі...**

— Дрэнна. Нельга звальняць людзей, простых працоўных за іх меркаванне. Мы катэгарычна супраць людзей, якія разгойдваюць сітуацыю, заклікаюць да рэвалюцый, нейкія радыкальныя дзеянні праводзяць, але ў Бабруйску, наколькі я чытаў, нічога гэтага няма. Мы таксама супраць дармаедаў, шмат каго з лідараў нашай апазіцыі трэба прымусіць працаваць. Некаторыя 20 гадоў нідзе не працуюць, а грошы аднекуль атрымліваюць.

**— А вы самі працуеце?**

— А вы як думаеце?

**— Вы можаце быць вызваленым ад працы лідарам партыі...**

— У нас усе працуюць: альбо ў бізнесе, альбо ў дзяржструктурах. І старшыня партыі таксама. А як жыць, калі не працаваць? Наша партыя цалкам на самазабеспячэнні. Што тычыцца мяне, вы думаеце, я сяджу і гляджу ў акно?! Я адпрацаваў у праваахоўнай сістэме, а цяпер працую ў бізнес-структурах, якія знаходзяцца пры партыі, на пасадзе дарадцы, намесніка кіраўніка.

**— Алег Сяргеевіч, мы некалькі адхіліліся ад галоўнага пытання. Ці гатова ваша партыя ўмяшацца ў бабруйскую сітуацыю? Магчыма, сярод звольненых членаў вашай партыі няма.**

— Не трэба быць членам нашай партыі, каб атрымаць нашу падтрымку. ЛДПР заўсёды гатова падтрымаць простых людзей, якіх незаконна звальняюць. Для нашай партыі няма страху. Нас слухаюць, і многія пытанні, якія мы ўзнімалі, вырашаліся і прабіваліся. І вельмі добра, што "Народная Воля" піша пра гэтую сітуацыю.

**— Газета можа толькі інфармаваць. У партыі, думаю, больш рычагоў уплыву.**

— Мы даручым кіраўніку нашай бабруйскай арганізацыі вывучыць сітуацыю, выказаць сваё меркаванне, а я думаю, што яно адназначна будзе на карысць звольненых людзей, і мы данясём гэта меркаванне да цэнтральнай улады ў Мінску. Мы ўплываем на грамадскае меркаванне людзей.

**— Гэта ўсё добра. А як наконт канкрэтных дзеянняў — выйсці і падтрымаць пратэстуючых?**

— Галадаць не трэба. Ніякіх дэманстрацый наша партыя ніколі не падтрымае. Ад гэтага камуністычнага трэба сыходзіць... Да гэтага часу святкуем 7 лістапада. А святкаваць не трэба, таму што гэта рэвалюцыя. Ніякіх рэвалюцый быць не павінна.

**— У Бабруйску таксама не рэвалюцыя, гэта, хутчэй, адчайны крок, спроба прыцягнуць да праблемы ўвагу грамадскасці, улады краіны.**

— Здароўе трэба берагчы. Падарвуць галадоўкай здароўе — і што? Можна ісці на супрацьстаянне, проста піярыцца, каб пра цябе пісалі ў інтэрнэце. Але гэта тупіковы шлях. А трэба дамагацца сваіх правоў у рамках заканадаўства. Я прыхільнік гэтага. І ў працоўных яшчэ не ўсе магчымасці вычарпаны. Трэба абскардзіць рашэнне начальства ў судзе, у абласным судзе, напісаць ліст ва ўрад, схадзіць на прыём да старшыні гарвыканкама. І ў гэтым пытанні мы гатовы ім дапамагчы. Гатовы з імі сустрэцца, калі трэба схадзіць куды-небудзь. Але пакуль нам трэба праблему вывучыць...

У ЛДПР ёсць грамадская прыёмная, ёсць юрыст. І да нас ідуць людзі, і мы ім дапамагаем. І суд ужо не адзін выйгралі. Але мы не крычым аб гэтым, не піярымся.

**— Выйгравалі суды аб незаконным звальненні?**

— Так. Але толькі ў Мінску.

Самае галоўнае: я катэгарычна супраць палітызаванасці гэтай праблемы. Упэўнены, што людзі там выйшлі не з-за палітыкі, людзей турбуе эканоміка, як жыць, як зарабіць, як пракарміць сям'ю. Як толькі пачынаем палітызаваць, робім горш. Зараз хто-небудзь выйдзе, заявіць на ўсю краіну: "Я абараню гэтых людзей!" І што? Зробіць толькі горш. Будзем крычаць — толькі сапсуем ўсё. Таму мы і не крычым. Але мы і не баімся нічога. Гэта толькі мясцовыя ўлады ў нас баязлівыя. Чыноўнікі на месцах баяцца з кабінета выйсці, хаваюць у выканкамах ключы ад туалета, каб наведвальнікі надоўга не затрымліваліся і не сядзелі ў чэргах ля кабінета. БРСМы на раёнах трэба разганяць, "Белую Русь" таксама. Ідэолагі нічога не робяць. Мы ніколі не баяліся гэта казаць. Але ў нас прынцып іншы. Мы з уладай супрацоўнічаем і будзем супрацоўнічаць, таму што па-іншаму нічога не будзе.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

КАМЕНТАРЫЙ

## Бізнесам партыі займацца не могуць

Пагадзіцеся, неадназначных момантаў у адказах А.Гайдукевіча нямала. Мы папрасілі палітолага **Юрыя ЧАВУСАВА** пракаментаваць пакуль толькі адзін яго пасаж: "Я адпрацаваў у праваахоўнай сістэме, а цяпер працую ў бізнес-структурах, якія знаходзяцца пры партыі..." Ці не парушаецца тут беларускае заканадаўства?

— Пытанне цікавае, — адзначыў палітолаг. — Сапраўды займацца бізнесам, прадпрымальніцкай дзейнасцю грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі не могуць. Ім законам забаронена выступаць заснавальнікамі камерцыйных арганізацый, апроч тых, якія займаюцца выдавецкай дзейнасцю. Прасцей кажучы, партыя можа толькі заснаваць і выдаваць сваю газету. Таксама партыям дазваляецца зарабляць грошы за кошт продажу сваёй сімволікі. Я мяркую, што спадар Гайдукевіч не зусім дакладна сфармуляваў сваю думку. Напэўна, ён меў на ўвазе структуру, якая створана кімсьці з сябраў партыі для ажыццяўлення пэўнай дзейнасці. Такая структура можа ахвяраваць грошы палітычнай партыі. Гэта законам не забаронена.

СІТУАЦЫЯ

# Калі на Кахоўскай, 37а адбудзецца наваселле з запрашэннем Аляксандра Лукашэнкі?

У Мінску па вуліцы Кахоўскай, 37а стаіць толькі што пабудаваны дом. І што цікава, жадаючых засяліцца хаця б у адну з 68 кватэр няма. Галоўная прычына — адсутнасць вады і электрычнасці. Да таго ж у некаторых кватэрах выбіты вокны, паўсюль будаўнічыя недаробкі.

Каля пад'езда сустракаю прадстаўніка генпадрадчыка. Назваўся Мікітам, прозвішча назваць катэгарычна адмовіўся. Толькі прамармытаў: "*Разумееце, адным адно не падабаецца, другім — другое. Мы, канешне, даробім тое, што трэба дарабіць. Батарэі ўжо цёплыя. Вады няма, але ўсё ўжо праведзена. Засталося заключыць дамовы — і можна жыць. Праўда, за тое, што батарэі ўжо грэюць, людзям давядзецца заплаціць. Хоць і не жывуць...*"



Дом пачалі будаваць у 2010 годзе. Праз год генпадрадчык збанкрутаваў, і ў 2011-м прыйшоў іншы. Але толькі летась вывелі так званую каробку пад дах, а сёлета распачаліся ўнутраныя работы.

Сярод патэнцыяльных жыльцоў нямала льготнікаў. Гэта рэдкая з'ява, бо звычайна льготнікі атрымліваюць кватэры ў так званых "сацыялках" — стандартных бюджэтных дамах з мінімальнай плошчай. У доме ж на Кахоўскай плошча трохпакаёўкі не 48 квадратных метраў, а 110—120. Да таго ж у некаторых кватэрах па тры балконы. У самім доме шмат плошчы для месцаў агульнага карыстання і асобны ўваход у офісныя пакоі.

Чаму патэнцыяльныя жыхары сёння не хочуць даплачваць за свае кватэры? А вось чаму... Калі будаўніцтва пачыналася, долар каштаваў 3000 рублёў. Многія кажуць, што і плацілі доларамі, хаця зараз гэта не праверыш, бо на паперах усё прапісана ў рублях. Цяпер людзям загадана даплаціць тую курсавую розніцу, якая склалася пасля абвалу рубля. Зразумела, што ўсе абураны: яны ж ужо аплацілі свае кватэры, купілі іх. А ім зноў кажуць: "Плаціце..."

У адчаі дольшчыкі запісалі трэці па ліку відэазварот да кіраўніка краіны, у якім нагадалі, што будаўніцтва вялося 53 месяцы замест 15 з паловай, як было пазначана ў дамове. Чытаем: "*Здавалася б: дом павінен быць выдатнай якасці. Але што атрымалася на справе? Якасць аздаблення кватэр выклікае жах. Вось ужо 4 месяцы наш дом раскрадаюць. Ён стаў месцам знаходжання моладзі, якая шукае вострых адчуванняў. У яго лёгка прабрацца па лесвіцы на незачынены другі паверх. Адміністрацыя Цэнтральнага раёна і Мінгарвыканкам запэўніваюць, што падрадчык усе прэтэнзіі ліквідуе ў гарантыйны тэрмін. Паправіць выбітыя дзверы, заменіць разбітыя вокны, павесіць паштовыя скрыні, зафарбуе надпісы на сценах, усталюе абсталяванне, якога няма.*

*Прайшло ўжо 3 месяцы і 19 дзён пасля здачы дома, але Упраўленне капітальнага будаўніцтва яшчэ не дало нам дадатковыя пагадненні з канчатковым коштам, чым парушыла дагавор і пазбавіў магчымасці дольшчыкаў, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і скарысталіся дзяржпадтрымкай, своечасова павялічыць крэдытную лінію. Фактычна затрымкай у прадастаўленні разліковых дакументаў УКБ пазбаўляе нас кватэр, таму што ўзяць камерцыйныя крэдыты ў нас няма магчымасці.*

*У адміністрацыі Цэнтральнага раёна (намеснік кіраўніка Д.В.Ляшчынскі) і ў Мінгарвыканкаме (намеснік старшыні А.В.Галь) нам кажуць, што кошт, які атрымаўся за квадратны метр, для такога дома і ў такім раёне вельмі "салодкі". Пазаўчора нам агучылі кошт метра для маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў — 9,6 мільёна. Усе чамусьці забываюць, што мы ў цяжкі 2010 год, у які пачынаўся валютны крызіс, абмянялі свае зберажэнні па курсе 2960 рублёў за 1 долар і фінансавалі будоўлю ўсе 2010 і 2011 гады. Кошт метра ў дольшчыкаў з дзяржпадтрымкай (якія ўступілі ў будаўніцтва на пачатку 2010 г.) у долараВым эквіваленце на дату ўнясення плацяжоў большы, чым у дольшчыкаў па камерцыйным кошце, якія ўступілі ў будаўніцтва напрыканцы 2012 года па валютнай цане 1000—1100 долараў.*

*Вось што абурае: ужо здадзеныя УКБ дамы-даўгабуды, якія пачыналі будавацца пазней нашага дома і ледзь не ў чыстым полі, былі здадзены раней, і кошт квадратнага метра атрымаўся непараўнальна ніжэй. Чым наш дом так вызначыўся? Можа, тым, што на яго маюць віды "абраныя і набліжаныя", хто палічыў за лепшае пабераҷы свае грошы і пабудаваць сабе кватэры за наш кошт?*

*Нам паведамляюць: дзейнасць генпадрадчыка праверана, усё чыста! Пры гэтым заплюшчваюць вочы на тое, што папярэдні дырэктар УКБ (В.М.Халадзінскі) раней працаваў на кіруючай пасадзе ў генпадрадчыка дома. Застаецца толькі здагадвацца, якія нацэнкі і прыпіскі зроблены, каб атрымаць за квадратны метр такую цану і каб атрымаць вердыкт аб адсутнасці парушэнняў пры праверках".*

Дольшчыкі запытваюць: чаму ў службовых асоб краіны, кіраўніцтва УКБ няма ніякай адказнасці за дзеянні і бяздзейнасць, а ёсць толькі беспакаранасць і абыякавасць да праблем людзей?

Можна, канешне, пасля таго, як будуць выпраўлены недаробкі, засяліцца і крыху пацярпець, як цярпелі жыхары дома №25а па вуліцы Валгаградскай, якія чатыры месяцы чакалі гарачай вады. Першы пад'езд гэтага дома быў здадзены ў эксплуатацыю яшчэ ў лютым. Усе жыхары атрымалі ключы ў ліпені. А гарачая вада па трубах пайшла толькі днямі. Затое з халоднай не спыняюцца перабоі.

Яшчэ адзін аспект праблемы — далёка не ўсе дамы трапілі ў спіс праблемных. Напрыклад, дамы на 3-м Чыгуначным завулку не значацца ў спісах даўгабудаў, але жыць у іх пакуль таксама немагчыма. Людзі рыхтаваліся засяліцца напрыканцы лета, але на той тэрмін з вялікай цяжкасцю засялілі першую 9-павярховую секцыю. Другая, 12-павярховая, яшчэ не гатова, а да ўзвядзення трэцяй, 15-павярховай, заказчык зможа прыступіць толькі пасля карэкціроўкі праектна-каштарыснай дакументацыі. Справа ў тым, што з праекта спатрэбілася выключыць падземныя гаражы-стаянкі, таму што жыхары фінансаваць іх адмовіліся, а ў заказчыка таксама няма на гэта сродкаў.

Сітуацыя парадаксальная і, на жаль, тыповая — кватэры ў двух секцыях практычна цалкам распрададзены, а грошай не хапае. Ад таго, што асноўная прычына даўгабудаў — слабы заказчык ці нядобрасумленны падрадчык, людзям не лягчэй.

Тым не менш, калі глядзець звонку, толькі на справаздачы ды лічбы, то можна прыйсці да высновы, што сітуацыя пацiху выпраўляецца. А вось калі гэта тычыцца цябе асабіста, то немагчыма зразумець і прыняць, чаму, ужо заплаціўшы за сваю кватэру, ты павінен даплачваць зноў і зноў. Вось і патэнцыяльныя жыхары дома на Кахоўскай напісалі Аляксандру Лукашэнку: "*Мы спадзяёмся, што ўсё скончыцца добра, мы заселімся ў свае кватэры, якія будуем 4,5 года. І запрашаем вас на наваселле, асабіста ацаніць якасць будаўніцтва забудоўшчыка — УКБ Цэнтральнага раёна*".

**Любоў ЛУНЁВА.**

## *3 мільёны рублёў*

*Столькі, згодна са статыстыкай, выдаткоўвае на прадукты харчавання ў месяц сярэднестатыстычная мінская сям'я з чатырох чалавек.*

З гэтых грошай трэць прыходзіцца на мяса і мясапрадукты. Малако і малочныя прадукты ў структуры выдаткаў складаюць 19,7%, хлеб і хлебапрадукты — 12,6%, садавіна і ягады — 7,9%, рыба і рыбапрадукты — усяго толькі 5,5%.

## *Зноў забілі з-за машыны*

*Днямі ў міліцыю звярнуўся жыхар сталіцы: ужо некалькі дзён ён не мог знайсці 24-гадовага пляменніка, які знік разам з машынай і буйной сумай грошай.*

Аператыўнікі крымінальнага вышуку высветлілі, што да знікнення могуць мець дачыненне двое жыхароў сталіцы 30 і 35 гадоў.

*"Як растлумачылі затрыманыя, са зніклым яны былі знаёмыя і падтрымлівалі сяброўскія адносіны. Аднак дзеля завалодання яго аўтамабілем пайшлі на забойства. Цела сваёй ахвяры вывезлі ў Віцебскую вобласць і ўтапілі ў возеры",* — адзначылі ў ГУУС.

Заведзена крымінальная справа.

Як вядома, гэта ўжо не першы выпадак, калі ў Беларусі забіваюць з-за машыны.

ДА ВЕДАМА!

## *Аперацыя «Эвакуацыя»*

***З 14 лістапада ў Мінску павысіліся тарыфы на прымусовую эвакуацыю аўтамабіляў. Такое рашэнне прыняў Мінгарвыканкам.***

Паводле дакумента, прымусовая адбуксіроўка (эвакуацыя) транспартнага сродку на ахоўную стаянку з поўнай пагрузкай на эвакуатар складзе 430 тыс. рублёў (раней — 380 тыс.), з частковай пагрузкай на эвакуатар — 350 тыс. (300 тыс.).

Тарыф на захоўванне прымусова эвакуяванага транспартнага сродку на ахоўную стаянку на працягу адных-трох сутак складзе 60 тыс. рублёў (раней 50 тыс.) за суткі, чатырох—дзесяці сутак — 35 тыс. (30 тыс.) за суткі, на працягу 10 і наступных сутак захоўвання — 25 тыс. (20 тыс.) за суткі.

МНЕНИЕ

# «Приговор отменить, осужденного реабилитировать»

*К такому выводу приходишь, когда читаешь кассационную жалобу Андрея Бондаренко и его адвоката в судебную коллегию по уголовным делам Минского городского суда. Однако суд кассационной инстанции принял иное решение — приговор в отношении А.Бондаренко оставить без изменения, а жалобу отклонить.*

С таким решением суда нельзя согласиться по следующим причинам.

*Во-первых*, в действиях А.Бондаренко отсутствуют признаки хулиганства по всем трем эпизодам обвинения. Для этого достаточно более внимательно изучить обстоятельства дела и сопоставить их с признаками состава хулиганства.

В контексте статьи 339 УК хулиганством признаются умышленные действия, грубо нарушающие общественный порядок, выражающие явное неуважение к обществу, сопровождающиеся применением насилия или угрозой его применения либо уничтожением или повреждением чужого имущества.

Как на предварительном следствии, так и в судебном заседании не было доказано именно хулиганских мотивов в действиях Бондаренко. Также не было доказано, что эти действия совершались с исключительным цинизмом (ч.2 ст.339 УК), а равно то, что такие действия были совершены с применением оружия или других предметов, используемых в качестве оружия (ч.3 ст.339 УК).

В последнем случае речь идет о том, что А.Бондаренко причинил телесные повреждения потерпевшей Т.Р.Радион связкой ключей. Эту связку ключей от квартиры органы следствия, а затем и суд расценили как "оружие". Однако из научно-практического комментария к статье 339 УК ("Хулиганство") следует, что предметами, используемыми в качестве оружия, могут признаваться лишь те предметы, которые *"предназначены для причинения телесных повреждений" (см.: Комментарий к Уголовному кодексу Республики Беларусь / Под общ. ред. А.В.Баркова. — Минск: Тесей, 2003, с.908).*

Очевидно, что ключи от квартиры для причинения телесных повреждений никак не подходят. К тому же в ходе обоюдной потасовки у квартиры Бондаренко потерпевшая первая причинила ему телесные повреждения (укусила за палец).

*Во-вторых,* в материалах уголовного дела имеется ряд недостоверных доказательств. Например, по эпизоду обвинения по ч.1 ст.339 УК нельзя принять в качестве достоверных показания потерпевшего А.Н.Яворского. По мнению Бондаренко, ранее судимый А.Н.Яворский специально поджидал выхода Бондаренко из кафе и своим поведением спровоцировал его на ответные действия. В кассационной жалобе он обращает внимание на ряд противоречий в показаниях А.Н.Яворского, в том числе относительно образования у него телесных повреждений в области лба.

Весьма убедительно Бондаренко доказывает недопустимость и недостоверность показаний свидетеля А.Э.Дурмановой, которая якобы являлась очевидцем инцидента между Бондаренко и А.Н.Яворским.

В жалобе Бондаренко указывается на наличие противоречий в доказательствах по обвинению по ч.3 ст.339 УК (причинение повреждений Т.Р.Радион). Кроме того, вывод эксперта по поводу причинения ссадин потерпевшей именно связкой ключей носил предположительный характер.

Что касается эпизода обвинения по ч.2 ст.339 УК (инцидент с потерпевшей Н.Г.Траулько в райотделе милиции), то Бондаренко настаивал на том, что нанес ей телесные повреждения не из хулиганских побуждений, а в связи с нахождением в эмоциональном состоянии.

*В-третьих,* расследование уголовного дела и судебное разбирательство были проведены тенденциозно и односторонне. Сразу после задержания Бондаренко в средствах массовой информации со ссылкой на Следственный комитет была размещена информация о том, что в отношении директора "Платформ инновейшн" *"...установлены три эпизода совершения хулиганских действий, связанных с применением насилия, в том числе в отношении женщин".*

При рассмотрении дела в судебном заседании не были обеспечены равные условия по представлению и исследованию доказательств, высказыванию стороной защиты мнения по вопросам, имеющим значение по уголовному делу. Многочисленные ходатайства, заявленные суду Бондаренко и его защитником, были отклонены. Так, суд отказал в вызове и допросе эксперта, свидетелей защиты.

Следует также обратить внимание на то, что суд по итогам разбирательства вынес чрезвычайно жесткий приговор — четыре года изоляции в исправительной колонии усиленного режима (один год был снят по амнистии). При этом почему-то не было учтено, что Бондаренко имел на иждивении малолетнюю дочь, ранее не был судим, публично извинился перед потерпевшими Т.Р.Радион и Н.Г.Траулько.

***

Теперь в уголовном преследовании правозащитника Андрея Бондаренко расставлены все точки над "і". Тем не менее у меня сложилось убеждение, что Бондаренко судили без достаточных к тому оснований и с нарушением требований уголовного и уголовно-процессуального закона. Возможно, новый суд пересмотрит его дело и постановит: приговор отменить, осужденного реабилитировать.

Верю, что так и будет. Во всяком случае, мы не должны забывать, что это уголовное дело имеет явно выраженную политическую составляющую. Как и настоящее хулиганство демонстрирует явное неуважение к обществу.

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, заслуженный юрист Республики Беларусь**

ПАЗІЦЫЯ

## *Пойдзем на выбары ці на спектакль?*

*Як вядома, старшыня Цэнтрвыбаркама **Лідзія Ярмошына** заявіла, што найбольш верагоднай датай правядзення наступных прэзідэнцкіх выбараў з'яўляецца 15 лістапада 2015 года.*

Паводле яе прагнозаў, на будучых выбарах будзе прыкладна 15 кандыдатаў.

Добра, калі нарэшце будуць сапраўдныя выбары. А калі чарговы спектакль? Нешта не чуваць, каб вырашалася пытанне наконт уключэння ў выбарчыя камісіі прадстаўнікоў кандыдатаў ад апазіцыйных партый. Тая ж Ярмошына нават не заікаецца аб адмене датэрміновага галасавання, падчас якога ёсць нямала магчымасцяў для фальсіфікацыі вынікаў галасавання.

## *Яўген ГУЧОК*

### *(З цыкла «Агульначалавечае»)*

***

*Калі ва ўладзе*
*Недачалавекі,*
*Народ спаўзае*
*Ў быдла і калекі;*

***

*Калі ва ўладзе*
*Антыпатрыёты,*
*Народ чакае*
*Статус ідыёта;*

***

*Калі ва ўладзе*
*Шкурнікі, зладзеі,*
*На што ў народа*
*Могуць быць надзеі?!*

***

*Калі нягоднікі*
*Ва ўладзе,*
*Дык падуладны люд*
*З сабой і з Творцам*
*не ў суладзе!*

***

*Пакуль ва ўладзе*
*Нечысць беснаватая,*
*Народу поўзаць*
*Клятаму й паддатаму.*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Кремлевская воронка

Факты кричаще свидетельствуют о том, что российская денежная единица вошла в штопор. И это вызвало ажиотажный спрос населения на валюту. За октябрь продажи банками наличной валюты в отделениях и обменных пунктах выросли в два-три раза по сравнению с сентябрем. Несмотря на высокий курс, соседи интенсивно скупают валюту. Из-за наплыва клиентов в небольших банках случаются перебои с продажей валюты, а в средних и крупных — начинают продавать по предварительному заказу. Без заказа можно приобрести не более одной тысячи долларов или евро, а то и меньше. Средняя сумма покупки валюты по Москве достигла около 10 тысяч долларов и около 8 тысяч евро. Ранее сумма покупки составляла от 1 до 3 тысяч долларов или евро. Московские обменники продают доллары и евро по более высокой цене. Стоимость доллара достигала 51 рубля, евро — 63 рублей. Москвичи активно скупали валюту и по такому курсу.

Только за октябрь месяц Центробанк России, чтобы хоть как-то затормозить обвальную девальвацию рубля, спустил на бирже в качестве интервенции в торги рекордные 30 млрд долларов из своих валютных резервов. Объем международных резервов Российской Федерации по состоянию на 31 октября 2014 года составил 428,6 млрд долларов против еще 439,1 млрд долларов на 24 октября 2014 года. Таким образом, международные резервы только за неделю сократились на 10,5 млрд долларов. Начиная с 5 ноября 2014 года Центробанк России объявил, что не намерен тратить на поддержание курса рубля более 350 млн долларов в сутки. При этом в октябре 2014 года он на протяжении девяти дней тратил на поддержание курса рубля более чем по 2 млрд долларов в день. Кремль явно испугался скорости истощения золотовалютных резервов. Специалисты по российскому бюджету посчитали, что при цене нефти 75—80 долларов за баррель у России хватит золотовалютных резервов ровно на два года. По сути, российский рубль отпущен в свободное плавание и явно начал тонуть.

В числе основных факторов, давящих на рубль, эксперты называют падение мировых цен на нефть. Страны ОПЕК увеличили поставки нефти на мировой рынок в сентябре и не намерены уменьшать объемы добычи до заседания членов картеля, которое состоится 27 ноября. При этом производство нефти в США растет, в том числе за счет увеличения добычи сланцевой нефти, и достигло максимума с марта 1986 года (8,867 млн баррелей в сутки), а в 2015 году достигнет самого высокого уровня за 45 лет. Явно по сговору с США и под их давлением Саудовская Аравия и Кувейт готовы обрушить цены на нефть до 80 долларов за баррель и ниже.

Нефтяной прессинг вкупе с экономическими санкциями Запада достигают своей цели — экономика России медленно, но все более явственно начинает загибаться. Бюджет трещит по швам. Экономический рост равен нулю. Промышленного роста нет. Валютные поступления сокращаются. Платежный баланс страны ухудшается день ото дня. Вероятно, скоро наступят времена, когда и критический импорт станет проблематичным (лекарства, запчасти к электронике, к контрольно-измерительной аппаратуре в медицине, энергетике и т.д.), поскольку элементарно будет в дефиците валюта, в которой Россия когда-то купалась. Инфляция к концу года будет очевидно двузначной. В сочетании с нулевым ростом это классическая стагфляция (одновременный рост инфляции и безработицы) — кошмар любого правительства.

Однако, несмотря ни на что, "царь всея Руси" Путин не намерен сдаваться. Он не перестает делать вид, что с оптимизмом смотрит в будущее, и улыбается западному миру, а в первую очередь — своим гражданам, делая хорошую мину при плохой игре. Как подмечают российские аналитики: все, что ему нужно делать, это улыбаться, чтобы показать, что не так страшен черт, как его малюют. Так иронизирует Путин. Он дал российское гражданство бывшему президенту Украины Януковичу, его премьеру и генпрокурору. Эти его сотоварищи, судя по всему, отказались бороться за возвращение к власти, которое они планировали и о котором боевито заявляли. Но дела у улыбающейся России обстоят все хуже, что видно и в путинской улыбке — улыбке сквозь скрываемые слезы.

Экономика России надрывается, а ее политическая система вырождается, превращается в исполнение капризов потерявшего связь с реальностью одного человека, с некоторых пор находящегося в полной прострации от пресыщенности властью. Россия предоставляет Абхазии безвозмездно 350 миллионов долларов. Она помогает Кыргызстану, Таджикистану, Армении, Беларуси. За последние 15 лет, по данным российских экспертов, безвозмездная помощь Беларуси составила 72 млрд долларов. В год Беларуси предоставлялось от 4 до 6 млрд долларов помощи. Либо через скидку на газ и нефть, либо через бюджетные и банковские кредиты. Теперь к списку прибавился оккупированный Крым и "республики" Донбасса. Крым будет обходиться России от 4 до 6 млрд долларов в год. Пенсионеры Донбасса уже с нетерпением ждут гуманитарной помощи из России. Якобы с ней доставят выплаты донецким пенсионерам. Надо понимать, российский бюджет начнет выдавать пенсии донецким и луганским пенсионерам, возможно, начнет платить зарплаты донецким и луганским бюджетникам, и на него ляжет вся тяжесть восстановления разрушенного. А, по оценкам Всемирного банка, для того, чтобы восстановить то, что разрушено в Донецке и Луганске, необходимо от 8 до 10 млрд долларов. В следующем году 21% госбюджета России составят военные расходы. Если учесть расходы на полицию, ФСБ, разведку, МВД, прокуратуру, суды, МЧС и других силовиков — это составит едва ли не половину расходов федерального бюджета. С 2011 года военные расходы в России стабильно растут ежегодно на 20%. Можно провести параллель: распаду СССР во многом способствовали именно высокие военные расходы внутри страны и помощь огромному количеству "друзей". Бремя империи нарастает как снежный ком.

Действия Москвы поставили белорусские власти перед очень сложным выбором. Надо бы как-то реагировать, изменяя свою кредитно-денежную политику, отношение к обменному курсу и к расходам бюджета. Иначе тонущая российская экономика легко затянет в свою воронку и белорусскую, которая к ней намертво пристегнута. За первые восемь месяцев 2014 г. доля России в белорусском товарном экспорте составила 41,6%. Доля импорта из России составила 55,1% общего импорта товаров. На 1 января 2014 г. курс российского рубля к доллару был 32,56 единицы, 1евро — 45. Российские власти девальвировали свой рубль по отношению к доллару более чем на 38%, к евро — на 24,4%. Для сравнения, девальвация белорусского рубля к доллару с начала года по 6 ноября 2014 г. составил 12,6%, к евро — на 2,4%. Беларусь сильно отстает от России по темпам девальвации. Увеличение девальвационного разрыва между российским и белорусским рублями резко ухудшает условия торговли с Россией для белорусских производителей. Дальнейшая потеря ценовой конкурентоспособности грозит сокращением экспорта в Россию на 8—10% в этом году и на 10—15% — в следующем. Удешевление российского рубля расширяет возможности для российских компаний на белорусском рынке. Поскольку формально торговых барьеров между нашими странами быть не должно, то ничто не мешает российскому бизнесу увеличить свое присутствие на белорусском товарном рынке.

По мнению белорусских экспертов, российские товары по отношению к белорусским могут подешеветь даже на 20—30%. В условиях "заморозки" зарплат, повышения тарифов на ЖКУ и общественный транспорт, увеличения ставок налогов белорусские производители ухудшат и без того не лучшее свое финансовое состояние. Значительно сложнее будет работать не только на внешних, но и на внутреннем рынке. При неизменности курсовой политики потери белорусских производителей товаров и нефинансовых услуг в 2015 году могут составить 7—10% выручки 2014 года. Такие потери будут сопровождаться резким ухудшением финансового положения предприятий, ростом долгов и неплатежей. Численность "лишней" рабочей силы тоже увеличится. В белорусском руководстве нет единого мнения, как реагировать на обвальную девальвацию российского рубля. Первый вице-премьер Семашко предлагает включиться в пике российского рубля, чтобы не терять в экспорте, глава Нацбанка Ермакова заявляет, что мы за российским рублем "бежать" не станем. Понятно, что это сразу вызовет панику среди населения и банковских вкладчиков по образцу сегодняшнего российского сценария.

Белорусская экономика по-прежнему остается нереформированным придатком экономики России. Более того, она становится все более от нее зависимой. По злой воле российского правителя его страна катится под откос, даже "крымнашистов" начинают быстро отрезвлять безудержный рост цен и общее снижение уровня жизни. Белорусским же властям, по большому счету, ничего не остается, как наблюдать и оценивать, как скажутся негативные последствия денежной и бюджетной политики Кремля не белорусской экономике. И делать вид, что все под контролем.

Народная Воля http://www.nv-online.info
14 ЛІСТАПАДА 2014 г.

ГОРЯЧАЯ ТЕМА

## Россия разжигает войну в Украине

Постоянный представитель Соединенных Штатов в Совете Безопасности ООН **Саманта Пауэр** обвинила Россию в том, что она говорит о мире, но продолжает разжигать войну в Украине.

Паэур выступила с этим заявлением на созванном по инициативе США экстренном совещании Совета Безопасности ООН. Она призвала усилить давление на Россию, с тем чтобы убедить ее выполнить обязательства, взятые в рамках Минских договоренностей, и предпринять меры по деэскалации конфликта на востоке Украины.

## ОБСЕ: границу между РФ и Украиной пересекло рекордное число людей в камуфляже

Наблюдатели ОБСЕ отметили увеличение случаев пересечения границы РФ и Украины людьми в камуфляже. Сообщается, что эти люди чаще стали переходить границу группами.

Об этом сообщается в отчете миссии ОБСЕ. За неделю границу на двух КПП перешли 655 человек в одежде армейского типа. Как отмечают наблюдатели, в последнее время эти люди стали чаще появляться на пунктах погранконтроля группами до 24 человек. Кроме того, на территорию России из Украины, как и раньше, продолжают переходить люди с различными ранениями и заболеваниями.

Если раньше через пограничные пункты "Гуково" и "Донецк" переходили в среднем немногим более 7 тысяч человек в день, то теперь их численность увеличилась на 500 человек в день.

Кроме того, 11 ноября наблюдатели ОБСЕ видели на КПП "Донецк" грузовик с маркировкой "Груз 200", которой обычно обозначается транспортировка погибших в ходе военных действий солдат. Грузовик въезжал с территории РФ в Украину, а через несколько часов проехал КПП в обратном направлении.

СТИЛЬ ЖИЗНИ

# Целуются все!

### *В Германии стартовал новый карнавальный сезон*



11 ноября для жителей Рейнской области Германии был особенный день. 11-го числа 11-го месяца в 11 часов 11 минут начался очередной карнавальный сезон.

Традиционный рейнский карнавал, или, как его еще называют, "пятое время года", всегда начинается в это время. Главные центры карнавала — города Кельн, Дюссельдорф и Майнц.

Самые заядлые ряженые, клоуны, скоморохи, шуты и просто любители беспечного веселья обычно берут в этот день выходной, чтобы надлежащим образом отпраздновать начало карнавального сезона, который завершится через четыре месяца грандиозным шествием. Можно от души праздновать начало "пятого времени года" под пиво и заводную музыку, раскачиваясь, взявшись под руки, — в тесноте, да не в обиде.

Не пугает даже опасность заразиться гриппом. А ведь в первый день карнавала (как, впрочем, и в другие) положено целоваться — со знакомыми, не очень знакомыми и совсем незнакомыми людьми. В Кельне всеобщее целование даже стало однажды лозунгом сезона: "In Kolle jebutzt" ("Целоваться в Кельне").

Карнавал открывается, как и положено, массовыми народными гуляниями. Нынешний сезон продлится до так называемой "пепельной среды" — 18 февраля 2014 года. А главное шествие проходит в "бешеный понедельник" (Rosenmontag). Это кульминация уличного праздника. На сей раз он приходится на 16 февраля.

ЗА БУГАМ

## Няма рук для працы

Завод па вытворчасці аўтамабільных крэслаў, які знаходзіцца паблізу Валбжыха, ужо некалькі месяцаў безвынікова шукае краўцоў. Прапануе заробак у 2,5 тысячы злотых (735 долараў), кантракт на некалькі гадоў і аплату праезду на работу. Але жадаючых працаваць няма, хаця ў гэтым рэгіёне Польшчы беспрацоўе складае пад 25%.

З падобнымі праблемамі змагаецца гігант інтэрнэт-гандлю Amazon, які некалькі месяцаў не можа сабраць калектыў для працы на складах пад Уроцлавам і Познанню. Фірма не прапануе вялікіх заробкаў, але спакушае бестэрміновым кантрактам, прэміямі, абедамі і бярэ на сябе абавязацельства дастаўляць рабочых на месца працы за 100 кіламетраў.

Усё больш і больш не хапае работнікоў у заходняй і паўднёвай частках Польшчы. Замежныя інвестары ахвотна выбіралі гэтыя рэгіёны, разлічваючы на танную рабочую сілу і высокі ўзровень беспрацоўя.

Аналітык Лукаш Бонк адзначае, што Польшча перастае быць канкурэнтаздольнай па коштах на працу ў параўнанні з іншымі эканомікамі, што развіваюцца, напрыклад, на ўсходзе Еўропы. Па-першае, палякі чакаюць большых заробкаў, па-другое, у краіне вялікая ценявая зона рынку працы — людзі рэгіструюцца беспрацоўнымі, што дае магчымасць бясплатна лячыцца, і нелегальна працуюць. Па-трэцяе, палякі лічаць: важна месца не толькі добры заробак, але таксама магчымасць без праблем дабірацца на работу, даступны кошт здымнай кватэры.

Такім чынам, разбураецца міф аб Польшчы як краіне з таннай рабочай сілай. Паляк ужо не пойдзе на нізкааплатную працу...

**Ігар КАХОВІЧ.**

## Утрымаць маладых

### *Урад пачынае праграму "Першы бізнес — падтрымка на старт".*

Польскі ўрад імкнецца ўтрымаць у Польшчы маладых людзей, многія з якіх пасля заканчэння ВНУ часта не могуць знайсці працу і выязджаюць за мяжу, дзе застаюцца жыць, піша "Dziennik — Gazeta Prawna". Урад пачынае праграму "Першы бізнес — падтрымка на старт". Маладыя людзі могуць атрымаць пазыку на заснаванне ўласнай фірмы ў памеры больш за 22 тысяч долараў ЗША.

СЛЫШАЛИ?

## Новый энергетический альянс

Греция, Кипр, Египет и, возможно, Израиль намерены наладить сотрудничество по добыче газа. Месторождения углеводородов у кипрского побережья позволяют им строить такие планы.

Датой рождения нового энергетического альянса можно считать 8 ноября. В этот день в Каире состоялась встреча президентов Египта и Кипра с главой греческого правительства. На ней Абдель Фаттах ас-Сиси, Никос Анастасиадис и Антонис Самарас заявили о готовности сотрудничать в сфере добычи природного газа в восточной части Средиземного моря. По данным греческих СМИ, к этому союзу готов присоединиться Израиль, который уже добывает газ у своего берега.

Крупные месторождения газа и нефти могут находиться и у южного побережья Кипра. Впервые газоносную площадь в этом регионе в ходе разведочного бурения в 2011 году обнаружил американский концерн Noble Energy. Добыча углеводородов должна начаться в 2018 году.

ЛИЧНАЯ ЖИЗНЬ

## Он якобы построил в своей усадьбе бассейн и амфитеатр на деньги нищих налогоплательщиков

Полиция ЮАР начала расследование предполагаемого нецелевого расходования бюджетных средств на реконструкцию частной резиденции президента страны **Джейкоба Зумы.**

Расследование начато по запросу оппозиционной партии "Демократический альянс". Первоначальный проект предусматривал обновление системы безопасности в доме президента. Однако в результате в частной усадьбе появились бассейн, частная клиника, вертолетная площадка, построены подземные бункеры и амфитеатр. Согласно источникам в парламенте, на реконструкцию домов было израсходовано не менее 23 млн долларов, сообщает iafrica.com.

Сам Джейкоб Зума отрицает эти обвинения и настаивает на том, что сам оплатил эту роскошь. По его словам, модернизация комплекса потребовалась ему в связи со значительным увеличением размеров семейства. У него 4 жены и 20 детей.

В обнародованном докладе общественного защитника ЮАР **Тулии Мадонеслы,** которая курирует борьбу с коррупцией, отмечалось, что дом Зумы *"превратился в витрину кричащей роскоши"* на фоне повальной нищеты в стране и что *"президент дал молчаливое согласие"* на все работы.

В 1997 году Зума стал заместителем главы АНК, а в июне 1999 года — вице-президентом ЮАР. В 2005 году президент Табо Мбеки освободил его от должности, поскольку Зуму обвинили в коррупции. В дальнейшем его заподозрили также в рэкете, отмывании денег и мошенничестве.

В 2012 его впервые обвинили в расходовании денег из бюджета страны на свой дом.

Зума, однако, продолжал пользоваться популярностью и в результате внутрипартийной борьбы сумел обойти конкурента. 72-летний Зума в мае этого года был переизбран президентом ЮАР на второй пятилетний срок.

**Антон КРАВЦЕВИЧ.**

СОТРУДНИЧЕСТВО

## США и Польша приступают к реализации совместной программы по инновациям

Первая в истории Польско-Американская программа по инновациям (PLUS-IP) стартует 17 ноября в Лос-Анджелесе. Программа нацелена на укрепление двустороннего сотрудничества в области инноваций и развитие связей между научно-академическими структурами, промышленными предприятиями, высокотехнологичными компаниями и правительствами двух стран.

Предполагается, что это позволит стимулировать появление новых совместных научно-исследовательских проектов. Особое внимание будет уделяться таким сферам, как оборона, энергетика, здравоохранение, наука и техника. В рамках программы правительство Польши планирует создать венчурные фонды сроком на 10 лет, которые будут в значительной степени обеспечивать финансирование наиболее достойных проектов.

ИХ НРАВЫ

## Самые дорогие

*карманные часы в мире проданы на аукционе Sotheby's в Женеве за 21,3 млн долларов*

Часы под названием Henry Graves Supercomplication, сделанные из золота чистотой в 24 карата, весят 500 граммов. Их изготовила швейцарская компания Patek Philippe в начале 1930-х годов по заказу нью-йоркского банкира Генри Грэйвса. Он поспорил с другим магнатом, что станет обладателем самых сложных часов в мире.

Помимо стандартных часовых, минутных и секундных стрелок они имеют еще 24 разных механизма, в том числе календарь, указатель фаз Луны, хронограф с точностью измерения до сотых долей секунды и другие функции.

На создание этих часов, которые состоят из 920 деталей, ушло восемь лет.

МІЛАСЭРНАСЦЬ

# «Я адчуваю асабістую віну»

*Чаму нямецкія маладзёны едуць у Беларусь працаваць валанцёрамі? Чым адрозніваецца валанцёрская праца ў нас і ў Германіі? Адказы на гэтыя пытанні — у гісторыі 19-гадовай немкі **Лауры КАДЭН** і размове з кіраўніком праекта "Мост пакаленняў" **Ларысай ДАЎГАЛЕВІЧ.***

### «Беларусы занадта часта ўзгадваюць вайну»

Лаура Кадэн прыехала ў Мінск амаль адразу пасля заканчэння сярэдняй школы. З верасня 2013 года па верасень 2014-га яна працавала валанцёрам пры "Гістарычнай майстэрні" ў праекце "Мост пакаленняў", што дапамагае сацыяльнай адаптацыі былых вязняў нямецкіх канцлагераў. Так гэта гучыць афіцыйна. На самай справе асноўнай задачай Лауры была дапамога былым вязням лагераў (дзяўчына жартам называе сваю працу "Праект "Бабулі", бо працавала з жанчынамі). Яна дапамагала ім прыбрацца ў кватэры, хадзіла па прадукты ды ў аптэку, размаўляла з імі, што для старых людзей не менш важна.

Калі Лаура выбірала сабе валанцёрскі праект, яна не ведала дакладна, у якую краіну паедзе, але хацела дапамагаць менавіта старэнькім сведкам падзей Другой сусветнай вайны.

*"З усёй нашай групы я адзіная не хацела ехаць у Беларусь, але потым адзіная і не хацела ад вас з'язджаць,* — кажа Лаура. — *Хоць праца мне выпала нялёгкая, з псіхалагічнага пункту гледжання перш за ўсё. Бо ад былых вязняў даводзіцца чуць часам вельмі страшныя гісторыі. Яны заўсёды хочуць паразмаўляць пра тое, што было. Як мне падалося, яны занадта часта ўзгадваюць вайну".*

Лаура запісалася ў валанцёрскі праект адразу пасля заканчэння школы. У Германіі гэта традыцыя для маладых людзей — год паміж школай і ўніверсітэтам адпрацаваць валанцёрам. Завецца гэтая праца — добраахвотны сацыяльны год. Сацыяльнае валанцёрства з'яўляецца своеасаблівым пропускам у вышэйшую навучальную ўстанову.

### «Умовы, у якіх жывуць у Беларусі былыя вязні, — вялізная несправядлівасць»

Лаура адзіная з групы нямецкіх валанцёраў хацела працаваць з ахвярамі нацыянал-сацыялізму. *"У нас амаль ніхто з моладзі не хоча займацца гэтай тэмай,* — кажа дзяўчына. — *Нашае пакаленне ўжо не адчувае на сабе нейкай віны. А я адчуваю і прызнаю гэтую віну. І лічу, што таксама нясу асабістую адказнасць за злачынствы свайго народа ў гады вайны".*

Нямецкую валанцёрку непрыемна ўразілі ўмовы, у якіх жывуць у Беларусі былыя вязні.

*"Я адчула вострую несправядлівасць. Параўноўваю, як жывуць былыя вязні тут і ў Германіі, і гэта параўнанне не на карысць Беларусі, канешне. Я не ведаю, каго вінаваціць, але для мяне гэта — несправядліва",* — кажа яна.

Дзяўчына прызнаецца, што год, праведзены ў Мінску, шмат што для яе змяніў. Праца ў Беларусі дапамагла паіншаму паглядзець на гісторыю і Германіі, і сваёй уласнай сям'і:

*"Я лепш зразумела тэму нацыянал-сацыялізму, якую раней ведала па падручніках. Я ўжывую сустрэлася з ахвярамі гэтага страшнага рэжыму, і гэта вельмі ўразіла і пакінула ўва мне след. Я б нават сказала, што гэта змяняе светапогляд. Я інакш стала ставіцца да старых людзей, да людзей з інваліднасцю. Падчас вайны мой дзядуля быў нацыстам, салдатам ён служыў на падводнай лодцы. Калі ён памёр, я была вельмі маленькая, таму не паспела з ім сур'ёзна паразмаўляць пра вайну. А тут, сярод гэтых беларускіх бабуль і дзядуль, я ўзгадвала свайго дзядулю і думала: а што, калі б ён нарадзіўся яўрэем ці быў камуністам?.. У яго быў бы зусім іншы лёс, і тады і мяне, магчыма, не было б..."*

Цяпер яшчэ жывая бабуля Лауры, і яе бацькі рэгулярна робяць ахвяраванні ў "Акцыю выкуплення". Лаура ж вырашыла вывучаць славістыку, гісторыю і культуру славянскіх краін. За год у Мінску яна няблага вывучыла рускую мову. А вось беларускую, кажа, не было з кім вучыць. Бо з бабулямі яна размаўляла па-руску, а яе галоўная падапечная дык і ўвогуле добра ведала нямецкую мову. Ад'язджала Лаура з Беларусі з думкай абавязкова вярнуцца сюды.

### «У Беларусі валанцёрства ці падпольнае, ці добраахвотна-прымусовае»

Пра асаблівасці працы замежных і беларускіх валанцёраў у Беларусі мы паразмаўлялі з **Ларысай Даўгалевіч** — кіраўніком праекта "Мост пакаленняў" пры "Гістарычнай майстэрні" ў Мінску.



**— Спадарыня Ларыса, несумненна, для Лауры праца ў Беларусі — значны і каштоўны досвед. А якое значэнне мае праца замежных валанцёраў для нас?**

— Падобныя валанцёрскія праекты — вельмі карысны досвед як для нямецкай моладзі, так і для нашага грамадства. Так мы можам адзін аднаго пазнаць, многае пераасэнсаваць, шмат чаму навучыцца. Лаура за час працы добра пазнаёмілася з нашым менталітэтам. Яна казала, што адразу кідаецца ў вочы і што адрознівае беларускіх пенсіянераў ад нямецкіх — гэта пастаянныя скаргі, нараканні, што жыццё скончана, "я заўтра памру", "нічога добрага ўжо не будзе". Яна вельмі блізка да сэрца прыняла лёсы гэтых людзей — колішніх вязняў нямецкіх лагераў і прымусовых працаўнікоў.

**— А якое стаўленне саміх былых вязняў да таго, што да іх прыязджаюць нямецкія валанцёры, унукі нацыстаў?**

— Па-рознаму бывае. Некаторыя лічаць, што ў гэтым і ёсць акт адкуплення нямецкага народа. Іншыя кажуць, што ім сорамна, што нямецкія школьнікі і студэнты прыязджаюць мыць ім падлогу, мяняць памперсы, дапамагаць. Яны кажуць: "А дзе нашы дзеці? Дзе нашы валанцёры і наша дзяржава?" Ёсць і тыя, хто агрэсіўна ставіцца да ўсяго нямецкага, у кім яшчэ жыве траўма вайны. Часта гэта яўрэі. Яны кажуць, што ад немцаў ім нічога ўвогуле не патрэбна.

**— Але ж у словах ветэранаў ёсць рацыя — дзе нашы валанцёры?**

— Гэта сапраўды важнае пытанне. Нельга сказаць, што ў Беларусі няма валанцёраў. Пытанне ў іншым — як дзяржава ставіцца да нашых валанцёраў? Ужо шэсць разоў у нас праводзіўся Міжнародны валанцёрскі форум. І кожны год там шмат гаворыцца, што трэба зрабіць так, каб сістэматызаваць, давесці да розуму арганізацыю працы з валанцёрамі ў Беларусі. На такіх мерапрыемствах прысутнічаюць супрацоўнікі розных сацыяльных службаў, але дагэтуль не змянілася нічога. Пагаманілі і разышліся.

**— А што нам трэба змяніць у працы з валанцёрамі?**

— У Еўропе так: калі я хачу быць валанцёрам (напрыклад, умею вырошчваць кветкі, жыву адна, на пенсіі, і хачу дапамагчы некаму па садзе з тымі ж кветкамі), то прыходжу ў валанцёрскую арганізацыю гэтага профілю, заяўляю пра сваё жаданне. А яны знаходзяць мне людзей, якім я змагу дапамагчы. І гэтая ж арганізацыя аплаціць мне праезд, страхоўку на час валанцёрства, будзе мяне суправаджаць падчас усёй маёй працы. У Беларусі праца валанцёраў неарганізаваная. Гэта здзіўляла, дарэчы, і Лауру. Для яе "Акцыя выкуплення" ўсё зрабіла, каб яна прыехала сюды, — візу, страхоўку, знялі кватэру, забяспечылі кішэннымі грашыма.

**— Аднак валанцёрства ж і мае на ўвазе дабраахвотную працу, не за грошы?**

— Размова не пра заробак. Але валанцёр мусіць быць абаронены законам. У Германіі да валанцёрства ставяцца як да сапраўднай працы. У нас жа дзяржава не разумее, што гэта таксама прыбытак — хоць і не матэрыяльны. Валанцёр, які, напрыклад, схадзіў да бабулі, недзе 50 тысяч дзяржаве адпрацаваў. Трэба зразумець, што валанцёрства — гэта сацыяльны капітал. І зрабіць, як у немцаў, дзе год працы валанцёрам амаль абавязковы для паступлення ва ўніверсітэт. Ці, напрыклад, валанцёрскую працу дадаваць у працоўны стаж. Шкада, што нашы валанцёры як падпольшчыкі. У нас толькі адна арганізацыя мае карт-бланш на валанцёрскую працу — БРСМ. А калі я не ў БРСМ і хачу нешта зрабіць як валанцёр, дык гэта нікому не патрэбна. У нас валанцёрства альбо падпольнае, альбо дабраахвотна-прымусовае.

### ДАВЕДКА

Праект "Мост пакаленняў" дзейнічае з кастрычніка 2012 года. У Беларусі яго рэалізуе Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр і Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Узаемаразуменне". Фінансуецца праект нямецкім федэральным фондам "Памяць, адказнасць, будучыня" і прыватнымі ахвяраваннямі. Праект накіраваны на пераадольванне сацыяльнай ізаляцыі і самотнасці былых вязняў канцлагераў і ахвяр нацыянал-сацыялізму.

"Акцыя выкуплення — служба справе міру" — нямецкая грамадская арганізацыя, якая бярэ на сябе адказнасць за злачынствы нацыянал-сацыялізму ў свеце і змагаецца супраць любых формаў дыскрымінацыі.

**Марына МАЎЧАНАВА.**

